

# НАША СЛОВА

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 34 (720)** **7 ВЕРАСНЯ 2005 г.**


# ШЛЯХ СКАРЫНЫ

## Ад першай кнігі да Нацыянальнай бібліятэкі

30 жніўня ля будынка Нацыянальнай бібліятэкі ўсталявалі помнік беларускаму першадрукару Францішку Скарыну.

Помнік размясціўся з левага боку ля недабудаванага ўваходу ў Нацыянальную бібліятэку. Адпаведнай шыльды на ім няма, бо яшчэ не завершана праца над пастаментам.

Помнік выраблены з бронзы, ягоная вышыня — каля шасьці метраў, плюс трохмятровы пастамент. Помнік заняў сваё пачэснае месца пад наглядам аўтара Алеся Дранца.



Скульптар Алесь Шатэрнік калісьці разам з Дранцом браў удзел у конкурсе на лепшы помнік беларускаму асветніку і першадрукару. Вось што ён сказаў з нагоды ўстаноўкі помніка: "Напачатку 90-х, калі адзначалася 500-годдзе з дня нараджэння Францішка Скарыны, я таксама браў удзел у гэтым конкурсе. Падаў праект з назвай "Дыспут". Было пададзена больш за 10 праектаў. У канчатковым варыянце абралі праект Алеся Дранца. Ён звяртаў на сябе ўвагу сваёй дасканаласцю, зробленасцю. Напачатку меркавалася помнік паставіць ля Акадэміі навук, ля гэтай калянады. Але цяпер, раз варункі так склаліся, што робяць гэтую бібліятэку, то я думаю: гэтая фігура будзе ўпісвацца ў сучасную ўрбаністыку".



Папярэдне меркавалася, што ўрачыстае адкрыццё помніка адбудзецца 1-га верасня. Аднак у гэты дзень вакол помніка кіпела праца па добраўпарадкаванні тэрыторыі. Галоўны архітэктар праекту Нацыянальнай бібліятэкі Віктар Крамарэнка выказаў меркаванне, што асобнага адкрыцця помніка не будзе, а будзе адкрыццё ўсяго комплексу Нацыянальнай бібліятэкі. Але як бы там не было, Менск прычакаў свайго Скарыну. Варта нагадаць, што помнік Скарыну ў Лідзе быў пастаўлены 11 гадоў назад.

*Паводле "Радыё Свабода".*

# Дзень беларускага пісьменства і друку

4 верасня ў горадзе Камянец Брэсцкай вобласці ўрачыста прайшоў Дзень беларускага пісьменства.

Удзельнікі свята прайшлі да Свята-Сімяёнаўскай царквы, дзе адбыліся хрэсны ход і святочная літургія, а таксама пасадка Сада малітвы. Потым удзельнікі ўрачыстасцяў усклалі кветкі да манумента вызвалення горада і сабраліся каля Камянецкай вежы XIII стагоддзя. У тэатралізаваным паказе перад жыхарамі і гасцямі Камянца былі ўзноўлены карціны заснавання горада ў 1276 годзе, будаўніцтва Камянецкага слупа і абароны горада ад захопнікаў, а таксама гісторыі беларускага кнігадрукавання, звязанай з імёнамі Францішка Скарыны, Сымона Буднага, Васіля Цяпінскага і Лаўрэнція Зізанія.

Адкрываючы свята, віца-прэм'ер Уладзімір Дражын зазначыў, што яно адлюстроўвае воблік нацыянальнай гісторыі і культуры, які склаўся дзякуючы вялікім асветнікам, пачынаючы ад Кірылы Тураўскага і Ефрасінні Полацкай. Потым У.Дражын зачытаў удзельнікам Дня беларускага пісьменства прывітанне прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі.

Старшыня Берасцейскага аблвыканкама Канстанцін Сумар нагадаў, што Камянецкі раён вядомы Белавежскай пушчай, якая з'яўляецца візітнай карткай краіны. Паводле яго слоў, сёння праводзіцца вялікая праца па развіцці турыстычнай інфраструктуры раёна, аднаўленні старажытных сядзіб вядомых дзеячаў нацыянальнай гісторыі і культуры, у тым ліку Адама Міцкевіча, Тадэвуша Касцюшкі і Напалеона Орды.



Епіскап Берасцейскі і Кобрынскі Іаан зазначыў, што дванаццаты раз праводзіцца свята Дня беларускага пісьменства і дванаццаты раз жыватворны агонь Дамавіны Гасподняй наведвае многія куткі Беларусі. "Гэта цуд, што асвятляе нашу гісторыю і беларускі народ, які жыве дзеля таго, каб не толькі ўспамінаць нашу спадчыну, але і каб адрадзіць і абагаціць нашае духоўнае жыццё і перадаць яго наступным пакаленням. Калі мы ўспамінаем мінулае, значыць у нас ёсць будучыня", — сказаў епіскап.

У гэты ж дзень у Камянцы адкрыўся новы музей "Камянецкая вежа". Яго першымі наведвальнікамі сталі члены аргкамітэта па правядзенні Дня беларускага пісьменства на чале з віца-прэм'ерам Уладзімірам Дражыным.

Музей, размешчаны ў Камянецкім слупе, з'яўляецца філіялам Берасцейскага абласнога краязнаўчага музея.

*Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.*

# У НОВЫМ НАВУЧАЛЬНЫМ ГОДЗЕ РОДНУЮ МОВУ БУДУЦЬ ВЫВУЧАЦЬ ЧАТЫРЫ ТЫСЯЧЫ ПОЛЬСКІХ БЕЛАРУСАЎ, ЯКІЯ ЖЫВУЦЬ У БЕЛАСТОЦКІМ ВАЯВОДСТВЕ

У гэтым навучальным годзе родную мову будуць вывучаць каля чатырох тысяч польскіх беларусаў, якія жывуць у Падляскім ваяводстве (адміністрацыйны цэнтр Беласток). Пра гэта паведамляе Польскае радыё.

Беларуская мова выкладаецца прыкладна ў 20 базавых школах, 10 гімназіях і двух ліцэях у Бельску-Падляскім і Гайнаўцы — гарадах, што размешчаны недалёка ад беларускай мяжы (на стыку Берасцейскай і Гарадзенскай абласцей). У частцы гмін абодвух паветаў беларускую як родную вывучаюць ад 30 да 100 працэнтаў вучняў. У самым Беластоку, дзе, паводле афіцыйных звестак, жывуць сем тысяч этнічных беларусаў, беларускую мову вывучаюць крыху больш за 70 дзяцей.

*Зміцер УЛАСАЎ, БелаПАН*

# Звольнены з працы сябар Рады ТБМ

23 жніўня атрымаў працоўную кніжку дырэктар Вархоўскай БШ Гарадокскага раёна Леанід Гаравы, які адпрацаваў на гэтай пасадзе 18 гадоў, а на гэты час застаўся без працы.

Падставай стала заканчэнне кантракту 19 жніўня і, як мяркуе пакуль былы дырэктар, нежаданне начальніка аддзела адукацыі працаваць з асобай, які выказвае свае думкі па розных пытаннях грамадскага жыцця і кіравання сістэмай адукацыі.

Спадар Гаравы з'яўляецца першым актывістам дэмакратычнага руху на Гарадоччыне з канца 80-х гадоў мінулага стагоддзя. Актыўна удзельнічаў у выбарах у Палату прадстаўнікоў ў 2004 годзе. Леанід Гаравы з'яўляецца дэпутатам Гарадоцкага райсавету, сябрам Цэнтральнага камітэту БСДП (Грамада), уваходзіць у рэспубліканскую Раду ГА "ТБМ імя Францішка Скарыны" і актыўна ўдзельнічае ў працы Асамблеі дэпутатаў мясцовых Саветаў.

*Наш кар.*





# ЧАГО ВАМ ХОЧАЦЦА, ПАНОВЕ?..

Прынятае радыёстанцыяй "Нямецкая хваля" і падтрыманае Еўразвязам рашэнне адкрыць вяшчанне на Беларусь на рускай мове нечакана для многіх выклікала такую бурную рэакцыю ў асяродку нашай інтэлігенцыі, якой даўно ўжо не было. Адны палітыкі і публіцысты ахарактарызавалі яго як відавочнае праяўленне непавагі да самага дарагога ў душы і спадчыне беларусаў, а іншыя назвалі "моўную праблему" неістотнай і нават пачалі, як быццам бы дэмакратычная "Белорусская газета", ёрнічаць, здзекліва прыпісваючы абражаным калегам сцверджанне, што, маўляў, для іх "самую вялікую пагрозу дэмакратыі ў Беларусі нясуць не рэпрэсіі ўладаў, не адсутнасць умоў для развіцця незалежных СМІ", а "... "вялікая і магутная" руская мова...".

Божа мой, якія глыбіні іроніі, якую шырыню філалагічных зацікаўленняў пачалі дэманстраваць некаторыя так званыя апазіцыянеры, вуснамі небезвядомай Вольгі Абрамавай напавал "забіваючы" сваіх беларускамоўных апанентаў: "Скажыце, калі пан Вячорка ўпусціць сабе на нагу малаток. На якой мове будзе ягоны каментар да гэтай падзеі?" Беднаму паліглоту Вінцуку Вячорку, відаць, сапраўды мала вядомыя тыя своеасаблівыя пласты рускай лексікі, якімі спадарыня Абрамава бліскуча авалодала за доўгія гады сядзення ў парламенце Рэспублікі Беларусь. Але давайце даруем яму гэты несмяротны ўсё ж грэх і шчыра скажам пра сутнасць балючай праблемы - пра нахабную і штодзённую русіфікацыю ў нашай краіне, якую, нікольк не хаваючыся, вось ужо больш за дзесяць год праводзіць дзяржаўнае чынавенства, і пра рэальную пагрозу, якая навісла над адной з самых мілагучных і старажытных славянскіх моў. Што – гэта выдумкі "нацыяналістаў" і "адмаразкаў"? Калі такое вызначэнне яшчэ можна так-сяк дапусціць у выказваннях маскоўскіх імперцаў і далёкіх ад нашай практыкі заходнееўрапейскіх функцыянераў, дык як можна даравань яго сваім "уласным" палітыкам і навукоўцам, калі яны не сляпыя і не глухія...

Рашэнне "Нямецкай хвалі" яскрава, як ніколі раней пацвердзіла, што прафесійныя барацьбіты за дэмакратыю ў Берліне і Брусэлі далёкія ад беларускіх рэалій, ад своеасаблівасцяў нашага палітычнага жыцця. Ім, відаць, і ўявіць сабе немагчыма, што карэнную, тытульную нацыю ў сённяшняй сувярэннай дзяржаве старанна пазбаўляюць гістарычнай памяці, што яе родную мову выганяюць з кабінетаў міністэрстваў і школьных класаў, з экранаў тэлевізараў і старонак кніг, што пастановай Міністэрства адукацыі знішчаецца адзіны ў краіне Беларускі гуманітарны ліцэй, а чалавек, які гаворыць на вуліцы па-беларуску, ахоўнікамі грамадскага парадку тут жа залічваецца ў злосныя апазіцыянеры і можа атрымаць дубінкаю па галаве. Скажаце, гэта жахліва і неверагодна? Так. Але ж гэта факт - і калі ідэолагі ў Берліне і Брусэлі сапраўды сур'ёзныя і адказныя палітыкі, яны павінны ўсё гэта ведаць і паводзіць сябе адпаведна. Ба што б там ні казалі пра непазбежны прагматызм, пра дыпламатычныя патрабаванні, пра абмежаванасць міжнародных магчымасцяў, нежаданне падтрымаць беларускую мову ў радыёвяшчанні на тэрыторыю Беларусі – свядома ці несвядома - цалкам кладзецца ў рэчышча русіфікатарскай лініі таго рэжыму, змагацца супраць якога нас заклікаюць.

Мне здаюцца наіўнымі (каб не сказаць больш рашуча) заявы кшталту: спярша - дэмакратыя, потым - мова. Што ж гэта за такая дэмакратыя, калі яна не ўключае ў сябе гарантаванае дзяржавай права людзей ствараць культуру на роднай мове, захоўваць і развіваць Богам дадзены дар гаварыць, спяваць, пісаць так, як вякамі павялося на гэтым кутку Зямлі? Што гэта за дэмакраты, якія не хочуць канкрэтна дапамагчы нашай мове выжыць у пару нялёгкіх выпрабаванняў? Скажуць - зноў жа вельмі прагматычна - не хапае сродкаў? Але ж на вяшчанне па-руску ёсць!.. Дык давайце горка і шчыра прызнаемся: лёс беларускай мовы для высакалобых заходнееўрапейскіх філосафаў і палітолагаў здаецца, напэўна, не такім ужо і істотным у сусветнай гісторыі. А вось для нас, нашчадкаў Скарыны і Гусоўскага, Сапегі і Каліноўскага, Купалы і Коласа, гэта пытанне жыцця і смерці нашага духу, нашай культуры. Таму мы і хвалюемся . таму і крычым, спадзеючыся, што нас нарэшце пачуюць і зразумеюць. Толькі, на жаль, складваецца ўражанне, што сыты Захад, які так ганарыцца (зусім заслужана) даўнімі традыцыямі дэмакратыі і цывілізацыі, у гэтым канкрэтным выпадку дзеля ўласнага спакою і камфортнасці абыякава дрэмле і не хоча сабе лішніх клопатаў...

Бясспрэчна, нашы застарэлыя айчынныя хваробы за нас ніхто не вылечыць. Праблемы бытавання дзяржаўнай беларускай мовы на Бацькаўшчыне павінны вырашаць мы самі. Праўда, ва ўмовах хітрай і жорсткай папулісцкай дыктатуры рабіць гэта вельмі няпроста. Таму і хочацца адчуць падтрымку больш шчаслівых і добраўпарадкаваных суседзяў па агульным еўрапейскім доме. Каму ж, як не ім, што разам з намі напоўніцу глынулі наступстваў пачварнага нацысцкага фашызму і шматгадовага бальшавіцкага абездухоўлівання, падаць нам дужую руку падтрымкі і спагады?..

Ох, як добра было б не пытацца ўслед за Янкам Купалам у паважаных замежных дабрадзеяў (ды і ў тутэйшых высокаўзнесеных манкуртаў): "Чаго вам хочацца, панове?" Няўжо хочацца занядбання мілай нашай беларускай мовы, затаптвання чыстых крынічак нашых нацыянальных талентаў, анямення цэлага народа? І хіба ў сённяшнім рынкавым свеце так ужо непасільна дорага – ці то ў далярах, ці то ў еўра - каштуе жэст павагі да святыні мужных і працавітых беларусаў, да іхняй годнай будучыні? Ці, можа, па думцы цынічных палітычных прагматыкаў, гэта не тая каштоўнасць, на якую варта траціцца?.. Сумна тады, панове, сумна і страшна...

***Генадзь БУРАЎКІН,***
***"Салідарнасць" 26.08.2005.***

# НЕМЦАМ – БАЙКОТ

**Беларуская мова – галоўная каштоўнасьць Беларускай нацыі і першасная ўмова дэмакратыі ў Беларусі.**

***У сувязі з планамі радыёстанцыі "Нямецкая хваля" пачаць вяшчанне на Беларусь па-руску Сойм Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" і Кансерватыўна-Хрысьціянскай Партыі БНФ распаўсюдзіў адкрыты ліст да грамадзянаў Беларусі, у якім у прыватнасці гаворыцца:***

"Сойм Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" і Кансерватыўна-Хрысціянскай Партыі БНФ разгледзеў пытанне аб палітыцы Еўразвязу ў дачыненні да Беларусі і адзначае, што паўнамоцныя прадстаўнікі Еўраўзвязу ў сваіх прапановах дапамогі беларусам кіруюцца не інтарэсамі справядлівасці і дэмакратыі, а толькі птарэбамі Еўразвязу і інтарэсамі паасобных краінаў, што ў яго ўваходзяць. Сведчаннем гэтакай пазіцыі з'яўляецца ігнараванне прадстаўнікамі і структурамі Еўразвязу беларускай мовы – галоўнай каштоўнасці і галоўнай умовы беларускай дэмакратыі. Яны не хочуць прызнаваць відавочнае, што нацыянальны ўціск прамаскоўскага лукашэнкаўскага рэжыму і душэнне беларускай мовы ёсць галоўнае і самае грубае парушэнне правоў чалавека і жыццёвага права Беларускай нацыі.

Гэтакая пазіцыя непрызнавання выяўлена ў рашэнні Еўракамісіі даручыць вяшчанне на Беларусь тэлерадыёстанцыі "Нямецкая хваля" на ... расейскай мове. Прапановы тых радыёстанцыяў, якія планавалі вяшчанне па-беларуску, былі Еўракамісіяй адкінутыя.

Вось такую "дапамогу" брусельская бюракратыя плануе для беларусіх змагароў..,

... "Я не разумею – піша ў адным з лістоў у адказ кіраўніца расейскай рэдакцыі "Нямецкай хвалі" Карнелія Рабітц, - чаму ўсе засяродзіліся на пытанні мовы вяшчання" (CorneliaRabitz@dw-world.de).

Калі фраў Рабітц не разумее справы, то ёй не трэба гэтай справай займацца. Такі вывад вынікае з гэтакага прызнання. "Для нас тут ў камандзе перш за ўсё важным ёсць змест праграмы", - прадаўжае фраў Рабітц у савецкім духу. І далей: "У рэдакцыю "Нямецкай хвалі" прыходзяць вельмі шмат крытычных лістоў, якія тычацца пытання мовы. Але ніхто не дыскутуе наконт зместу будучых праграмаў", - здзіўляецца фраў. (Радыё "Свабода", 7 жніўня 2005 г.).

Відаць, што фраў сапраўды нічога не разумее і не ведае, што беларуская мова для нацыі, якую знішчаюць, якраз і ёсць зместам дэмакратыі, а не блытаныя думкі, якія, нічога не разумеючы, хоча выказаць з нямецкай антэны на мове расейскіх нішчыцеляў фраў Рабітц.

Нам не трэба такіх "дабрадзеяў" і такіх памочнікаў. Той, хто шчыра хацеў бы дапамагчы беларусам змяніць антыдэмакратычны рэжым і абараніцца ад маскоўскай імперскай палітыкі, той мусіў бы дарасці да разумення трагедыі беларускай нацыі ў яе змаганні з імперскай Расеяй за сваю незалежнасць, дзяржаву, культуру і існаванне. "Не мае значэння на якой мове вяшчаць, галоўнае змест," – спрабуюць павучаць нас ужо нямецкія "мудрацы" (памятаеце акупанцка-савецкае: "какая разница?"). Дык калі "не мае значэння", то давайце па-беларуску! Аж не, аказваецца ёсць "разница".

Тое, што "Нямецкая хваля" пры падтрымцы Бруселя пераймае эстафету русіфікацыі Беларусі і захавання ў нас савецкіх адносінаў да беларускай мовы і культуры - гэта ўжо нас не здзіўляе. Мы ведаем, у чым змест маскоўска-берлінскай палітыкі ў дачыненні да Беларусі. Ім перашкаджае нашая незалежнасць...

... Мы добра разумеем, што 30-ці хвілінная нямецка-расейская перадача на Беларусь на кароткіх хвалях нічога для беларусаў не вырашае. Але тут палітычная камбінацыя - запусціць траянскага каня ў наш эфір, потым сфабрыкаваць звесткі (пры дапамозе якога-небудзь халуйскага апытання, тут яны спецы) і прадоўжыць русіфікацыю далей. Ды яшчэ (калі ўдасца) і радыё "Свабода" зрусіфікаваць. Мы ведаем пра гэтыя маскоўска-нямецкія задумкі.

Мы звяртаемся да ўсіх беларусаў. Прыгледзьцеся. Паглядзіце рэальна на ўсіх гэтых палітычных "дабрачынцаў" з Захаду і з Усходу. Яны ж спрэс фальшываць, бо дбаюць найперш пра свае інтарэсы.

Мы не мусім сядзець, склаўшы рукі. Нам трэба аб'яднаць нашыя народныя высілкі па абароне беларускай мовы, культуры і незалежнасці, нягледзячы на розніцу ва ўзросце і ў палітычных перакананнях. Нам трэба быць салідарнымі ў павазе да сваіх нацыянальных каштоўнасцяў, каб ні немец, ні масковец ніколі не плявалі беларусам у твар.

Мы заклікаем беларусаў звяртацца ў Еўразвяз і патрабаваць адмены рашэння пра русіфікацыйнае вяшчанне "Нямецкай хвалі" на Беларусь, а таксама аб невыдзяленні грошай на гэтую антыбеларускую справу.

Мы прапануем грамадзянам Беларусі пачаць байкот нямецкіх тавараў, нямецкіх фірмаў, нямецкіх турыстаў і ўсіх нямецкіх ініцыятываў. Лозунг: "НЕМЦАМ - БАЙКОТ!"

Гэта толькі пачатак. Калі Еўракамісія не зменіць свайго антыбеларускага рашэння, мы пойдзем далей у нашай самаабароне і нашай салідарнасці.

Рэчаіснасць зноў пацвярджае, што лёс беларускай будучыні можа быць толькі ў беларускіх руках.

Змагаймася ж і клапацемся пра нашу Беларусь.

14 жніўня 2005 г., г. Менск."

# Беларусы Прагі супраць планаў Deutsche Welle

Мы, прадстаўнікі беларускай дыяспары ў Чэхіі, хочам выкласці некаторыя свае аргументы ў публічнай дыскусіі на тэму планаванага рускамоўнага вяшчання радыёстанцыі Deutsche Welle на Беларусуь.

З часоў таталітарызму мы прывыклі шукаць праўдзівую інфармацыю на хвалях замежнага радыё, у першую чаргу, Радыё "Свабода", што ўжо больш за пяцьдзесят гадоў вяшчае па беларуску. Па-беларуску вяшчае таксама і рэдакцыя "Радыё Ватыкан", напаўняючы так адзін з асноўных прынцыпаў служэння рэлігіі - звяртацца да верніка ў ягонай мове. Слухаючы іх, мы ніколі ня мелі праблемы з моваю, але толькі з чутнасцю. На жаль, гэта, хіба, увесь пералік замежных радыёстацыяў, што вяшчаюць па-беларуску – ён непараўнальна меншы, чым, напрыклад, пералік украінскі.

Выглядае, што рашэнне аб мове свайго вяшчання радыёстанцыя Deutsche Welle прыняла без дэтальнага аналізу цяперашніх пазіцыяў беларускай і рускай мовы ў Беларусі. Руская мова на працягу дзясяцігоддзяў была (і цяпер застаецца) моваю афіцыйнай прапаганды, інструментам палітыкі русіфікацыі беларусаў, распачатай яшчэ расейскім царызмам. Беларускія дзяржаўныя радыё і тэлебачанне, дзяржаўныя газеты ўрэшце рэшт перайшлі на рускую мову. А гэта значыць, у рускую культурную і цывілізацыйную прастору. Сталася гэта на падставе пазіцыі самога А. Лукашэнкі, які заявіў, што ўзнае за вялікія толькі дзве мовы – англійскую ды рускую, а па-беларуску, маўляў, цяжка выказаць нешта сур'ёзнае. Сумна, што Deutsche Welle падзяляе гэтую пазіцыю сп. Лукашэнкі.

Беларуская ж мова, на якой некаторыя паставілі крыж, на самой справе перажывае ўнікальны момант самаўзнаўлення. Калі кольксаць яе носьбітаў у выніку моўнае палітыкі ўладаў скарачаецца, менавіта гэтую мову выбіраюць усе тыя, хто далучаецца да дэмакратычных рухаў і арганізацыяў, хто вызнае ідэалы свабоды, дэмакратыі, правоў чалавека.

Мы пішам гэты зварот з Прагі, горада, дзе вялікі выхадзец з Беларусі Францішак Скарына надрукаваў першую Біблію на мове беларусаў. Ягоная Біблія, выдадзеная ў Празе (1517 г.) была ТРЭЦЯЙ у Еўропе - пасля нямецкай (1455 г.) і чэскай (1488 г.). Гэта важнае пацверджанне таго, што для нашай нацыі культурна-цывілізацыйны кантакт з Захадам традыцыйна адбываўся пасярэдніцтвам БЕЛАРУСКАЙ мовы. Пяцьсот гадоў таму наш зямляк не сумняваўся, на якой мове яму трэба несці слова Божае да сваіх суродзічаў.

Мы спадзяёмся, што ў сваіх далейшых планах нямецкая радыёстанцыя, таксама як і іншыя аўтары новых беарускіх мас-медыя праектаў, будуць больш уважлівыя і разважлівыя ў стаўленні да моўнага пытання.

***Ад імя суполкі "Скарына" ў Чэхіі старшыня суполкі***
***Алена Коварава,***
***намеснік старшыні***
***Уладзіслаў Яньдзюк.***

# У МЕНСКУ ПРАЙШОЎ ФЛЭШ-МОБ ПАД ДЭВІЗАМ "ХОЧАМ ВУЧЫЦЦА ПА-БЕЛАРУСКУ"



Вечарам 1 верасня на плошчы Якуба Коласа прайшоў флэш-моб пад дэвізам "Хочам вучыцца па-беларуску!". Мэтай акцыі была прапаганда навучання на беларускай мове.

Удзел у ёй узялі каля 30 чалавак — навучэнцаў закрытага ў 2003 годзе ўладамі Нацыянальнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа. Прыкладна ў 17.05 маладыя людзі, на адзенні якіх былі намаляваныя літары, размясціліся на плошчы такім чынам, каб атрымаўся такі выраз: "Хочам вучыцца па-беларуску!". Пастаяўшы каля 15 хвілін, яны сталі ў тры ланцужкі (па колькасці слоў у надпісе) і накіраваліся ў бок парку імя Янкі Купалы па пешаходнай часцы праспекта Незалежнасці (былы праспект Францішка Скарыны). Маладыя людзі дайшлі да плошчы Перамогі, дзе, убачыўшы аўтобус, які праязджаў каля іх, знялі майкі з напісанымі на іх літарамі і неарганізаванымі групамі дайшлі да помніку Янку Купалу ў аднайменным парку. Па шляху маладыя людзі раздавалі студэнтам віншаванні з пачаткам новага навучальнага года, у якіх змяшчаліся заклікі вучыцца па-беларуску, а таксама інфармацыю пра адлічэнне з Жодзінскага палітэхнікума Сяргея Мурашкі.

Ля помніка Янку Купалу адбыўся імправізаваны бардаўскі канцэрт.

Нагадаем, што прадстаўнікі розных маладзёжных ініцыятыў сёння правялі акцыю "Хочам вучыцца па-беларуску-2". На працягу дня сябры моладзевых ініцыятыў накіроўвалі запыты ў мясцовыя аддзелы адукацыі з шэрагам пытанняў: колькі ў Беларусі дзейнічае ўстаноў адукацыі з беларускай мовай навучання, дзе і якія ёсць беларускамоўныя класы і школы, групы ў дзіцячых садках і дзіцячыя садкі, ці ёсць попыт на беларускамоўную адукацыю ў краіне?

Падчас школьных лінеек маладзёжныя актывісты раздавалі віншаванні на беларускай мове школьнікам і студэнтам.

*Сяргей ПУЛЬША, БелаПАН.*

# Зямля, што нас узгадавала

1 верасня ў Лідзе ў рамках традыцыйнага штогадовага святкавання Дня беларускага пісьменства і друку, як звычайна прымяркоўваецца да 1-га верасня прайшло віртуальнае краязнаўчае падарожжа "Зямля, што нас узгадавала". Арганізавала падарожжа Цэнтральная гарадская бібліятэка імя Янкі Купалы.







Падарожнай кнігай гэтай імпрэзы стаў "Нацыянальны атлас Беларусі". Атлас быў выдадзены яшчэ ў 2002 годзе, але да правінцыі дайшоў толькі сёлета. Атлас складаецца з 19 раздзелаў, утрымоўвае 593 карты. Гэта велізарны аб'ём інфармацыі. Прадставіць яе ўсю немагчыма, таму вядоўцы імпрэзы Тамара Зенюкевіч і Тарэса Бальцэвіч сканцэнтравалі ўвагу аўдыторыі, якую ў асноўным складалі навучэнцы Лідскай ПТВ - 136, на лідскай частцы атласа.

Ажыўлялі атлас спецыялісты па розных галінах жыццядзейнасці краю: гісторыі, прыродных рэсурсах, эканоміцы, культуры, адукацыі, складу насельніцтва.

У мастацкай частцы гучалі цудоўныя беларускія песні, у тым ліку, і на словы лідскіх паэтаў Леаніда Вініка і Рычарда Грушы.

*Яраслаў Грынкевіч.*

***На здымках:*** 1. Вядоўцы імпрэзы Тарэса Бальцэвіч і Тамара Зенюкевіч; 2. Так выглядае "Нацыянальны атлас Беларусі"; 3. У зале навучэнцы ПТВ-136.

## У АЎСТРАЛІІ ПАМЁР ВЯДОМЫ ДЗЕЯЧ БЕЛАРУСКАЙ ЭМІГРАЦЫІ АЛЕГ ШНЭК

У Мельбурне (штат Вікторыя) на 76-годзе жыцця 16 жніўня памёр эміграцыйны грамадскі дзеяч Алег Шнэк. Пра яго смерць у Беларусі стала вядома толькі зараз.

Алег Шнэк нарадзіўся 7 лютага 1930 года ў Ленінградзе ў сям'і беларускага вайскоўца Сцяпана Шнэка і прыходзіўся малодшым братам пісьменніку Уладзіміру Шнэку-Случанскаму. У 1939 годзе яго сям'я вярнулася на Беларусь з Чыты і пасялілася на бацькавай радзіме, у Слуцку. У 1944 годзе Шнэкі эмігравалі на Захад. У 1950 годзе пераехалі ў Аўстралію. У Мельбурне Алег Шнэк далучыўся да беларускага скаўцкага звяза "Усяслаў Чарадзей", удзельнічаў у арганізацыі футбольнай, а пазней — валейбольнай дружыны, быў сакратаром беларускага спартыўнага клуба "Зубр". У сваіх успамінах пра гэты перыяд дзейнасці ён напісаў: "Я заўсёды цвёрда верыў і буду верыць, што праца з моладдзю, асабліва ў галіне нацыянальнага спорту, для папулярызацыі нацыі мае самае вялікае значэнне".

А. Шнэк быў актыўным сябрам грамадскіх арганізацый у Аўстраліі, у тым ліку Беларускага вызвольнага фронту, нязменным кіраўніком якога з'яўляўся з 1993 года. Быў актыўным парафіянінам мельбурнскай царквы Трох Віленскіх Пакутнікаў Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. У 2003 годзе абраны кіраўніком Беларускага цэнтральнага камітэта ў штаце Вікторыя; доўгі час займаў пасаду намесніка старшыні Федэральнай рады беларускіх арганізацый у Аўстраліі, быў удзельнікам I з'езду беларусаў свету ў Менску (1993).

З ягоным адыходам фактычна скончыўся значны па сваім змесце перыяд гісторыі паваеннай беларускай эміграцыі на зялёным кантыненце.

*Алег РАЯВЕЦ, БелаПАН.*

*Калі за адраджэнне мовы, чытай, спадарства, "Наша слова"!*

РП - 1

Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету/часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА*** (назва выдання)

Колькасць камплектаў **1**

На 2005 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | X | X | X |

**Каму** (прозвішча, ініцыялы)

**Куды** (адрас)

(паштовы індэкс)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

на газету/часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА*** (назва выдання)

**Кошт** падпіскі 3540 руб. пераадрасоўкі руб. Колькасць камплектаў **1**

На 2005 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | X | X | X |

**Каму** (прозвішча, ініцыялы)

**Куды** (адрас)

(паштовы індэкс)

# Аршанская бітва 1514 года і яе ўдзельнікі

*(Заканчэнне. Пач. ў папярэднім нумары.)*

**7. СЛАВУТАЯ АРШАНСКАЯ БІТВА.**

У пятніцу 8 верасня 1514 года "на Рожество Пресвятыя Богородіцы" а 9-й гадзіне раніцы войска князя Канстанціна Іванавіча Астрожскага было ўжо пастаўлена ў баявых парадках на поле бітвы. Як тады было звычаем, перад бітвай святары з абодвух бакоў адслужылі малебень за перамогу.

Пры гэтым трэба нагадаць, што ў беларускім войску, таксама як і ў маскоўскім, за перамогу маліліся праваслаўныя святары і воіны. Большасць у войску К. І. Астроджскага, як і ён сам, складалі праваслаўныя баяры-шляхта. У аддзелах яго войска малебень адслужылі і ксяндзы, бо ў войску было нямала і католікаў.

Пасля малітвы абодва крылы маскоўскай арміі крыху адышлі ад асноўнага войска, каб потым акружыць ворага з тылу. Галоўныя ж маскоўскія сілы засталіся ў баявых парадках у сярэдзіне поля, а некаторыя аддзелы нават прасунуліся наперад, каб выклікаць непрыяцеля на бой. Пасля гэтага перасоўвання на вольнай пprасторы паміж беларускім і маскоўскім войскамі пачаліся "гарцы" – асобныя двубоі паміж вершнікамі з абодвух бакоў, каб заахвоціць астатніх воінаў да бітвы.

З невялікай прамовай па-беларуску да сваіх рыцараў звярнуўся Канстанцін Астрожскі. Ён нагадаў пра слаўныя баявыя традыцыі продкаў, заклікаў быць мужнымі, абараняць ад ворага Бацькаўшчыну. Пасля прамовы Астрожскі загадаў конным палкам вольна рушыць наперад. Гэта маскоўскія ваяводы палічылі сігналам да дзеяння. Затрубілі трубы, ударылі бубны. Сцягі і прапарцы (сцяжкі) распусцілі да бою.

Атаку пачаў полк правай рукі маскоўскага войска на чале з князем Міхаілам Іванавічам Булгакавым – Галіцам. Асобныя аддзелы І. Чаляднін паслаў на флангі, каб адразу зайсці ў тыл ворагу. Адбіўшы першую атаку непрыяцеля, беларускія вершнікі, якія атрымалі падмацаванне, пачалі самі наступаць. Полк Сампалінскага, які складаўся з цяжкай кавалерыі, адпаведна ўзброенай і з моцнымі даспехамі, праскочыўшы галопам перад фронтам беларускага палка, што заняў пазіцыю ў цэнтры поля бітвы, нанёс ворагу выт па флангу. Польскія вершнікі з доўгімі дзідамі валілі з коней маскоўскіх воінаў. М. Стрыйкоўскі ў сваёй "Кроніцы" распавядае, што ў паветры свісталі стрэлы, чуўся звон шабель, гучалі стрэлы з агністрэльнай зброі. Вершнікі набіралі тэмп, уразаліся ў шэрагі маскоўскага войска. Разгарэлася жорсткая бітва.

Князь Міхаіл Булгакаў-Голіца таксама атрымаў падмацаванне і ўзнавіў шэрагі свайго фронту. Маскоўскія сілы на правым флангу пачалі другую атаку. Беларускія рыцары і польскія саюзнікі ўстаялі. Але нечакана яны расступіліся, і вораг апынуўся перад пяхотай. Пяхота, страляючы з рушніц (пішчаляў), збіла з коней шмат маскоўцаў. Шэрагі маскоўскага палка пямяшаліся. У гэты момант Канстанцін Астрожскі звярнуўся да рыцараў: "Гэй! Вось цяпер наперад, дзеці!" (Для таго часу ён быў ужо стары. Яму было тады 54 гады). Ён казаў ім пра ўжо недалёкую перамогу і трыумф, пра тое, што непрыяцель ужо "млее". Заклікаў "мілых братоў" аднавіць мужнасць у гэтай хвілі: "Цяпер будзьце мужамі, няхай кожны адновіць дзельнасць, бо шэрагі непрыяцеля ўжо паблыталіся. На нашым баку стаіць сам Бог і дадае нам з неба абарону". Астрожскі заклікаў усіх ісці смела ў бой за ім, бо ён першы ставіць сваю галаву ў ахвяру і першы ідзе ў атаку на ворага з шабляй у руцэ, каб яе акрывавіць. Ён напомніў рыцарам пра слаўныя бітвы іх продкаў і каб яны чуліся сынамі сваіх бацькоў. Асаблівасці прамовы, перададзенай храністам, паказваюць, што яна была сказана па-беларуску. Гэтая промова славутага палкаводца псіхалагічна ўздзейнічала на беларускіх воінаў, і па яго заклікy яны зноў рушылі ў атаку.

Зноў пачалася жорсткая бітва. Канстанцін Астрожскі, размахваючы гетманскай булавой, зноў вёў у атаку сваіх рыцараў. Яны збівалі ворага дзідамі і секлі мячамі. Урэшце маскоўская конніца Булгакава-Голіцы была зламана, разбіта і ў беспарадку кінулася наўцёкі. Беларуская конніца і полк Сампалінскага ўварваліся ў другую лінію маскоўскага войска. Яны гналі рэшткі маскоўскага палка правай рукі і забівалі ўцекачоў, ужо нязлольных весці бой.

Аднак Чаляднін не дапамог Булгакаву-Голіцы. Гэта тлумачыцца суперніцтвам паміж маскоўскімі галоўнымі ваяводамі і жаданнем кожнага з іх атрымаць перамогу самастойна, каб выслужыцца перад вялікім князем. Нават пасля разгрому войска, якім камандаваў Булгакаў-Голіца, у Чаляднін заставалася воінаў больш, чым у Канстанціна Астрожскага.

Яшчэ раней Іван Чаляднін накіраваў свой полк левай рукі у наступ на супрацьлеглае, правае крыло войска Канстанціна Астрожскага. Аднак гэты наступ быў не вельмі моцны і выконваўся нерашуча.

Гэта дало магчымасць беларускай лёгкай кавалерыі на працягу доўгага часу адбіваць атакі маскоўскага войска на гэтым флангу. Чаляднін чакаў, калі ў бой супраць правай рукі ўцягнуцца ўсе харугвы беларускай лёгкай конніцы, каб выцяць ім у тыл і адным моцным вытам разбіць іх.

Урэшце Івану Чалядніну здалося, што ён перамагае. У нейкі момант бітвы ён убачыў, што беларуская конніца спыніла свае контратакі і па загаду Канстанціна Астрожскага пачала адступаць, а потым зусім кінулася ўцякаць. Тады Чаляднін, перакананы ў сваёй перамозе, кінуў у бой усе свае сілы. Аднак, у пэўны момант, недалёка ад лесу і кустоў у тыле беларускага войска, раптам па камандзе гетмана (ён падняў булаву, а за ім палкоўнікі паднялі свае шастапёры) конніца падзялілася на дзве часткі, якія хутка скочылі направа і налева. Уся бязладная маса маскоўскай конніцы аказалася перад гарматамі і пяхотай, што былі ў кустах на ўскраіне лесу і ўжо даўно падрыхтаваліся да аднаго моцнага залпу. Пярэднія і заднія рады маскоўскай конніцы былі расстраляны пасля першага залпу і далейшых стрэлаў гармат і рушніц. Яны панеслі вялікія страты ў людзях і конях.

Гэтая ваенная хітрасць, якую Канстанцін Астрожскі прымяніў яшчэ ў бітве з крымскімі татарамі 28 красавіка 1512 года каля Вішнявца на Валыні, і стала пераломным момантам Аршанскай бітвы. Пасля расстрэлу гарматамі лавіны маскоўскага войска ў яго шэрагах пачалася паніка, і яно кінулася наўцёк. Цяпер ужо ўцякалі рэшткі абодвух флангаў маскоўскага войска.

Спачатку І. Чаляднін спрабаваў угаварыць сваіх вершнікаў затрымацца. Аднак яго ўжо ніхто не слухаў.

Валынскі кароткі летапіс сведчыць, што Аршанская бітва працягвалася тры гадзіны.

Пасол германскага імператара да Васіля III барон Сігізмунд Герберштэйн, едучы ў Маскву, наведаў у Вільні ў 1517 годзе палонных І.А. Чаляднін і М.І. Булгакава-Голіцу і размаўляў з імі пра бітву пад Оршай. У сваіх запісках ён расказвае пра манеўр К. Астрожскага, што навёў непрыяцеля на гарматы, і пра разгром маскоўскага войска: "Ліцвіны, наўмысна адступіўшы да таго месца, дзе ў іх былі схаваны гарматы, накіравалі іх супраць маскавітаў, якія насядалі, і паразілі іх заднія шэрагі, што выстраіліся ў рэзерве, але занадта скучаныя, унеслі замяшанне ў іх шэрагі і рассеялі. Такі нечаканы баявы прыём прывёў маскавітаў у жах, бо яны лічылі, што ў небяспецы знаходзіцца першы шэраг, які б'ецца з ворагам, прыйшоўшы ў замяшанне і лічачы, што першыя шэрагі ўжо разбіты, яны кінуліся наўцёкі. Ліцвіны, разгарнуўшы і накіраваўшы ўсе свае сілы, пераследавалі іх, гналі і забівалі. Убачыўшы гэтыя ўцёкі, адступілі і абодва рускія флангі. Толькі ноч і лясы спынілі гэтае вынішчэнне".

М. Стрыйкоўскі таксама прыводзіць жахлівыя сцэны гэтых уцёкаў. У паніцы маскоўскія коннікі ўцякалі ў лясы, балоты, кідаліся ў Днепр і танулі, а пераможцы гналі іх і забівалі. Параненыя крычалі ім: "Не сечи голову!", а цяжка параненыя: "Добей!" Кроў забітых была не толькі на палях, але і сцякала ў раку Крапіўну, вада якой стала крывавай. А. Гваніні вобразна адзначыў, што рака Крапіўна паміж Оршай і Дуброўнай з-за вялікай колькасці трупаў замарудзіла свой бег. Шмат маскоўцаў падчас уцёкаў патанула ў рацэ. М. Бельскі, улічваючы пагоню за ўцекачамі, распавядае, што бітва цягнулася аж да заходу сонца. Вершнікі К. Астрожскага працягвалі пераследаванне аж но да васьмі літоўскіх міляў (на 60 кіламетраў). Адны з беларускіх вершнікаў вярнуліся назад апоўначы, іншыя нават назаўтра. З сабою яны вялі вялікую колькасць палонных.

І расійскія гісторыкі гавораць тое ж самае пра заканчэнне Аршанскай бітвы. Так, М.М. Карамзін ў "Истории государства Российского" адзначыў: "Ліцвіны ніколі не атрымлівалі такой славутай перамогі над расіянамі: гналі, рэзалі, тапілі іх у Дняпры і Крапіўне; целамі ўсеялі палі паміж Оршай і Дуброўнай"...

8. ВЫНІКІ АРШАНСКАЙ БІТВЫ

Страты бакоў у Аршанскай бітве ў летапісах і хроніках прыводзяцца прыкладна аднолькавыя М.М. Карамзін і С.М. Салаўёў прыводзяць лічбу забітых воінаў у маскоўскім войску: 30 тысяч чалавек. Храністы М. Стрыйкоўскі, М. Белскі і летапісы ўдакладняюць лічбу забітых на полі бою, і тых, хто загінуў ва ўцёках, - 40 тысяч чалавек страты маскоўскага войска палоннымі перавышалі 5 тысяч чалавек. У палон трапілі галоўныя ваяводы І.А. Чаляднін і М.І. Булгакаў-Голіца, 8 вярхоўных ваяводаў (што камандавалі аддзеламі па некалькі тысяч чалавек кожны), 37 начальнікаў ніжэйшага рангу, 2 тысячы дзяцей баярскіх (феадальная катэгорыя, блізкая да дваранаў) і больш за 2 тысячы іншых воінаў. 20 тысяч трафейных коней і палова вайсковага абозу былі перададзены пераможцам. Сярод трафеяў былі ўсе маскоўскія сцягі і агністрэльная зброя. Трыумф князя Канстанціна Астрожскага быў поўны.

Як сведчыць храніст М. Бельскі, страты войска пераможцаў былі невялікія. Загінулі толькі чатыры знатныя паны, а рыцараў каля пяцісот чалавек. Колькасць загінуўшых простага паходжання ён не прыводзіць. Затое, у гэтай бітве было шмат параненых. Раны ў большасці былі сечаныя, ад вытаў шабель.

На наступны дзень святкавалі перамогу. Быў адслужаны праваслаўны малебень у "чэсць святой Тройцы і на хвалу Госпада Бога" і каталіцкі малебень. Падчас урачыстага абеду, на які былі прыведзены палонныя ваяводы, Канстанцін Астрожскі павіншаваў сваіх ваяводаў, ротмістраў і рыцараў з перамогай. Пазней, 3 снежня 1514 г., кароль Польскі і Вялікі князь Літоўскі і Рускі Жыгімон наладзіў у Вільні ўрачысты прыём у гонар гетмана Астрожскага і рыцараў-пераможцаў. Аб перамозе былі пасланыя каралеўскія граматы да манархаў Еўропы. Да некаторых з іх паслалі невялікія групы палонных. Палонныя ваяводы і дзеці баярскія былі разасланыя ў розныя замкі ў Беларусі, а простыя воіны паселеныя ў вялікакняскіх і шляхецкіх маёнтках для выкарыстання на сельскагаспадарчых працах. І Чаляднін і М. Булгакаў – Голіца знаходзіліся ў вязенні ў сталіцы Беларуска-Літоўскай дзяржавы Вільні. Дзесяткі гадоў заставаліся палонныя ў Вільні і іншых гарадах, цвердзях, гаспадарскіх дварах і воласцях Вялікага княства Літоўскага. Маскоўскі ўрад не цікавіўся сваімі палоннымі суайчыннікамі. Сам Вялікі князь Маскоўскі Васіль Іванавіч заявіў, што для яго "той, хто трапіў у палон, - мёртвы". Іван Андрэевіч Чаляднін памёр у Вільні праз некалькі гадоў. М.І. Булгакаў-Голіца і князь Іван Сямёнавіч Селяхоўскі вярнуліся на радзіму толькі ў 1552 г. падчас панавання цара Івана IУ. Булгакаў-Голіца памёр праз два гады манахам пад імем Іона.

Пасля Аршанскай бітвы Канстанцін Астрожскі зрабіў у Вільні багатую фундацыю (уклад) царкве Свята-Духаўскага манастыра ў падзяку Богу за дараваную яму перамогу. У памяць гэтай фундацыі была звонку прымацавана мармуровая дошка з надпісам па-беларуску аб фундацыі К. Астрожскага за дараваную яму Богам перамогу "над непрыяцелем і супастатам Праваслаўнай царквы" Вялікім князем Маскоўскім. Каля 1520 г. невядомы мастак, хутчэй за ўсё ўдзельнік бітвы пад Оршай, намаляваў карціну, якая лічыцца першай у батальным жывапісе Усходняй Еўропе.

Хутка пра Аршанскую бітву стала вядома і ў Заходняй Еўропе. У другой палове 1514 г. быў выдадзены па-нямецку ў Нюрнбергу адмысловы лісток з апісаннем бітвы. У 1515 г. зноў было надрукавана ў Нюрнбергу апісанне Аршанскай бітвы.

Бітву пад Оршай занатавалі ўсе тагачасныя летапісы, у тым ліку маскоўскія і ноўгародскія, і замежныя кронікі. Аршанская бітва 1514 года пакінула глыбокі след у тагачаснай беларускай, украінскай і польскай літаратуры. У Валынскім кароткім летапісе была змешчана "Пахвала князю Астрожскаму, сапраўдны літаратурны твор. З таго часу захавалася беларуская народная песня пра перамогу пад Оршай "Ой, у нядзельку паранеька ўзышло сонца хмарненька...", якую цяпер спяваюць беларусія барды.

Бітва 8 верасня 1514 г. мела і дыпламатычныя наступствы. Германскі імператар Максіміліян І пасля бітвы разарваў саюз з Васілём ІІІ. Гэты саюз раней прадугледжваў падзел Польшчы і Беларуска-Літоўскай дзяржавы паміж Германскай імперыяй і Маскоўскім вялікім княствам. Аршанская бітва практычна замацавала ўсходнюю мяжу Беларусі, якая існавала да канца XУIII стагоддзя.

Бітва пад Оршай вывучалася ў вайсковых вучэльнях дарэвалюцыйнай Расіі. Як узор баявога майстрэрства беларускіх рыцараў, прыклад вайсковага таленту К. Астрожскага і вельмі ўдалай аперацыі яна прыведзена ў Расійскай ваеннай энцыклапедыі (1914г.).

Бітва пад Оршай 8 верасня 1514 г. з'яўляецца славутай старонкай беларускай вайсковай гісторыі. Яна ўпісваецца ў агульны шэраг гераічных перамог войска Беларуска-Літоўскай дзяржавы на працягу некалькіх стагоддзяў падчас існавання нашай самастойнай дзяржавы, калі беларускае войска адстойвала незалежнасць нашай краіны. Дата 8 верасня таму і з'яўляецца Днём Беларускай Вайсковай Справы.

***Доктар гістарычных навук, прафесар, акадэмік Міжнароднай Акадэміі навук Еўразіі – А. Грыцкевіч.***

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220034, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* naszaslowa@tut.by
http://tbm.org.by/ns/

*Рэдакцыйная калегія:*
Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Вольга Іпатава, Васіль Ліцьвінка, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 5. 09. 2005 г. у 11.30. Замова № 1525.
Аб'ём 1 друкаваны аркуш. Наклад 2000 асобнікаў.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 1180 руб., 3 мес.- 3540руб.
*Кошт у розніцу:* па дамоўленасці.